Крывіцкае(Вялікалітоўскае) Навуковае Таварыства
Пранціша Скарыны

# Зь гісторыі русыфікацы Вялікалітвы

## ON THE HISTORY OF RUSSIFICATION OF GREATLITVANIA(BIELARUS)

New York 1967

The Francis Skoryna Kryvian(Whiteruthenian) Society
of Arts and Sciences in the U.S., Inc.

## Замест перадмовы

Гэтта паданы разгляд Др. Я.Станкевіча дзьвюх працаў, каторых тэмаю ёсьць русыфікацыя Беларусі. Праца А.Пушкарэвіча беларускім чытаром мала прыступная, а другая вялікая(340 бач.) праца Александры Цьвікевіча зусім няпрыступная; часьць яе была надрукаваная ў менскім часапісе *"Полымя"*, а цэласьць вышла ў 1929 годзе ў Менску асобнай кнігаю пад назовам *"Западно-руссизм"*. Кніга, адразу па надрукаваньню, была сканфіскаваная і цяпер ёсьць вялікай рэдкасьцяй. Аўтар гэтага разгляду дзякуе сп. В. С. за пазычэньне яе.

Аўтар кнігі, Аляксандра Цьвікевіч паходзе зь Берасьця(на Палесьсю). У трыццатых гадох ён быў арыштаваны расійскімі камуністымі, і, відавочна, замучаны, бо нямаш празь яго цяпер ніякіх ведамкаў. Апошнія ведамкі праз А. Цьвікевіча падаў Масей Сяднёў у сваіх успамінах із савецкай турмы.

Абедзьве разгледжаныя працы не абыймаюць цэласьці русыфікацыі Беларусі, але гэтую цалосьць характарызуюць і падаюць супоўны зыркі абраз часьці яе.

## I

## А. ПУШКАРЕВІЧ: ПРЕОБРАЗОВАНИЕ ДУХА НАРОДНОСТИ

**(Эпизод из истории руссификации Белоруссии). Известия Академии Наук СССР, 1932 г., № 1. Отделение общественных наук, бач. 15-32).**

**Дасьледваны аўтарам эпізод із гісторыі русыфікацыі Беларусі ўзяты з 30-х год XIX стагодзьдзя (просьле паўстаньня 1830—31 гг.). Датыкаецца ён тае часьці Беларусі, што была забраная Расіяй трыма падзеламі — 1772, 1793 і 1795 гг., эпізод вельмі выразьлівы а шырокі.**

**На пачатку аўтар сьцьвярджае, што формула Пушкінава «Славянскія ручаі выльлюцца ў расейскім мору» сталася баявым лёзунгам рэакцыйных колаў расійскага грамадзтва ў пытаньню славянскім (б. 16).**

Адлі ён паказуе, што калі паўстаньне было здушана, расійскі ўрад стаў «станаўко й энэргічна на дарогу рэформаў, каторыя, подле словаў міністры нутраных справаў грапа Блудава, «павінны былі адвярнуць ад усяго, могучага будзіць неадпаведныя жалі або спадзевы». Актыўнасьць ураду ў уладжаньню забраных земляў беларускіх дыхтавалася таксама «стыхійным ростам сялянскіх паўстаньняў, каторымі характарызуецца першая палавіна XIX стг. ў Беларусі» (17).

Аўтар прыводзе паданую сучаснымі губарнатарамі характарыстыку расейскага бюракратычнага апарату й паліцыі ў Беларусі. Былі яны чыста здэмаралізаваныя і вельмі адзначаліся браньнем лапаноў (21-22). Духавенства, што пайшло на службу да ўраду, ня было выняткам. Характарызуючы стан духавенства, палкоўнік Бэк (у паведамленьню шэфу жандараў) адзначае: «Духавенства — гэта маральная паліцая — яшчэ горшая за сьвецкую паліцую (22).

Высокія расійскія адміністратары ў Беларусі ані яе ня знаді. Не ляпей знаді Беларусь і ў Пецярбурзе. Зь лічбызданьня Міністэрства нутраных справаў з 1832 г. (пераховуецца ў Ленінградзкім аддзеле Цэнтр. архіву) аўтар прыводзе ведамку, што «камітэт міністраў пастанавіў, 18 кайстрычніка 1832 г., з прычыны масавых уцёкаў з войскаў, стаячых у Беларусі, выпіскі з справаў праз дэзэртыраў перакласьці на мовы нямецкую, польскую і беларускае нарэчча польскае мовы» (23).

Подле мноства праектаў рэфарматараў Беларусі, трэба было ператварыць «народны дух» у ёй. Дзеля гэтага мелі служыць рэформа асьветы, увядзеньне расійскае мовы, цывільнае і крымінальнае расійскае судовае працэдуры, скасаваньне вуніі, прыцягненьне дарогаю палёгкаў а прывілеяў да Беларусі ўраднікаў з расійскіх губэрняў і да г. п., наапошку, калянізацыя беларускіх губэрняў сялянмі з губэрняў расійскіх (18-19).

Асабліва вялікія спадзевы былі на калянізацыю. Ужо за Кацярыны II-й было вялікае раздаваньне беларускіх земляў расійскаму дваранству. «Да 1799 г. было раздана 107 двароў зь 94 160 сялян» (18). Цяпер, апрача дваран, праектавелі калянізаваць Беларусь расійскім купецтвам і асабліва сялянмі.

Калі калянізацыйны фонд быў, хоць і вельмі прыблізна, высьнены, пасулілі віцэ-губарнатарам калускаму, курскаму, пскоўскаму а арлоўскаму абясьніць люднасьці (скарбовым сялянам) пра даваньня перасяленцам (да Беларусі) карысьці а палёгкі і падаць сьпісаньні асобаў, жадаючых перасяліцца. Як бачым, мелі быць пераселеныя да Беларусі сяляне зь беларускіх земляў уперад (да XVIIIстг.) забраных Маскоўшчынаю, моўна або прынамся ідэялягічна ёю асыміляваныя. Гэтак было і ў канцы XVI—XVII стг.. І тады, захапляючы якую зямлю беларускую, Масква старалася калянізаваць яе сваймі дваранамі а купцамі (сялян тады Маскоўцы ня перасялялі на забраныя ў Беларусі землі), але брала іх галоўна із раней забраных і асвоеных ужо земляў беларускіх. Прычынамі гэтага, відавочна, былі: большая гусьціня людносьці земляў беларускіх Маскоўскага гаспадарства, чымся на землях этнаграфічна маскоўскіх або на прасторах новае калянізацыі (дольнае Ўзволжа і інш.); аднолькавасьць псыхікі, бліжшы пераезд, што ўсё стварала большую ахвоту да перасяленьня.

Жадаючых перасяліцца да Беларусі аказалася з Курскае губэрні 141 чалавек, з Пскоўскае 363 чалавекі, з Арлоўскае 84, а іншыя заявілі, што яны баяцца жыць сярод чужога народу. З Калускае губэрні жадаючых перасяліцца ня было. Гэткім парадкам, замест праектаваных на пачатак перасяліць 9 651 мужчынаў, аказалася ахвотных толькі 588. Аўтар прыводзе іншыя прычыны, чаму й гэтая колькасьць не магла быць пераселеная.

Зь беларускіх земляў, забраных Расіяй у XVIII стг., урадова былі званыя беларускімі Віцебская а Магілеўская губэрні, Горадзенская-ж, Віленская а Менская губэрні і акруга Беластоцкая — літоўскімі. Але «ў 1840 г. назоў беларускія й літоўскія губэрні быў забаронены. У цыркуляру Камітэту міністраў з 26 чырвіня 1840 г. № 542 казалася: «Калі падавалі да найвышшага подпісу ўказ, у каторым былі менаваныя губ. беларускія й літоўскія з гэтымі назовамі, гаспадар імпэратар закасаваў назоў беларускіх і літоўскіх, загадаў перапісаць указ із менаванымі губэрнямі кажнай асобна — Віцебскай, Магілеўскай, Горадзенскай а Віленскай; пры гэтым быў собскаручны найвышшы загад: «Правіла гэтае дзяржаць і наперад, ніколі накш ня пішучы, як кажную губэрню асобна» (Ленінгр. аддзел Цэнтр. арх. Комітэт дзеля зах. губ.)» б. 16, выпаска).

II

## А. ЦЬВІКЕВІЧ: «ЗАПАДНО-РУССКАЯ» ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ

(Полымя, 1927 г. № 8, б. 101—120; 1928 г. № 1, б. 117—139, № 2, б. 132—158, № 3, 120—141, № 4, б. 113—145, № 7, б. 131—143).

У першым разьдзеле свае працы аўтар найперш даець аз-

начэньне «западно-русской» школе. «Пад гэтым назовам — кажа аўтар — мы разумеем цэлы сьцяг асобаў — палітычных, грамадзкіх, навуковых і наагул культурных, — якія паставілі сваёй мэтаю давесьці, што Беларусь ёсьць не апрычоным краем, із сваёй гістарычнай нацыянальнай прыродаю, але што яна ёсьць заходняй часткай адзінае Расіі» (101).

«Западно-руссизм» бярэць пачатак із часу Кацярыны II, каторая імкнулася, каб паміж Беларусяй і Расіяй «исчезла грань инородия» і каб Беларусы сталіся «русскими» душою й сэрцам (там-жа). Наступным этапам русыфікацыі й развою «западно-руссизму» была пара Міколы I і красаваньня свайго даходзе ён за Мураўёва.

«Адным із найзырчэйшых а найстанаўчэйшых выяўленьняў «западно-русской» школы была дзейнасьць часапісу 60—70 год мінулага стагодзьдзя «Вестника Западной России», кіраванага ведамым у сваім часе К. Говорскім». Адлі аўтар характарызуе Гаворскага і ягоны часапіс: «К. Гаворскаму абавязана Беларусь найагіднейшым тыпам «западно-русского человека», у якім, як у фокусе, адбіліся найцямнейшыя рысы панаваньня ў Беларусі старога рэжыму» (104).

Далей аўтар характарызуе пару 50-х і 60-х год (108—110) і непераборлівае ходаньне Гаворскага з украінафільствам (111—118).

«Не зважаючы на поўную салідарнасьць «Вестника» (Гаворскага) з новымі (русыфікацыйнымі) паглядамі (рас. ураду) на ўкраінафільства, не зважаючы на адданую службу яго інтарэсам «православия и русской народности», — палажэньне «Вестника» з дня на дзень горшала. Яго мала хто чытаў, падпісьнікі, спачатку даволі чысьленыя, пакрысе адыходзілі ад яго, і тыраж ягоны падаў. Дрэнна было з матар'яльнага боку і, што асабліва дзіўна, ня лепш было з папулярнасьцю, — навет у тых колах урадніцкіх а духоўных, дзе ён павінен быўбы быць прызнаным аўтарытэтам» (119). Выратаваў Гаворскага Мураўёў, гукнуўшы яго да Вільні, куды ён і пераехаў зь Кіева ў 1864 г.

У другім радьдзеле — «Гаворскі і «Вестник» Западной России» ў Вільні (надрукаваны ў № 1 «Полымя» 1928 г.) — свае працы аўтар падаець прычыны гукненьня Мураўёвам Гаворскага да Вільні — патрэбны быў дзеля абрусеньня Беларусі (117—118), паказуе культурны стан Беларусі перад паўстаньнем 1863 г. і зараз посьле паўстаньня (119—123). Адлі ён у гэтым і ў наступным разьдзеле (надрукаваным у № 2 «Полымя» 1928 г.) разглядае дзеяльнасьць Гаворскага зь ягоным «Вестником Западной России» у Вільні ад 1864—1871 г. Дзеля таго, што гэтая дзеяльнасьць служыла заданьню русыфікацыі



Беларусі, аўтар мусіц закрануць таксама русыфікацыю за генэраг-губарнатарства Мураўёва, ягонага гр. Баранова.

«Зь першых дзён выданьня (у Вільні) «Вестник» заняў становішча «казённой рептилии», якая цалком была пад загадам ген.-губарнатарскай канцылярыі і пад загадам епархіяльнага кіраўніцтва Язэпа Сямашкі. Разам із тым ён павінен быў гуляць пры Мураўёву ролю таго грамадзкага голасу, бадзь выразам тае грамадзкае апініі, безь якое ўсямоцны адміністратар ня мог абыйсьціся, дарма што меў маральнае падзьдзяржаньне патрыятычнае Масквы» (126).

Гаворскі ходаецца супроці ўжываньня беларускае мовы ў школах і царкоўных казанях, у тым ліку каталіцкіх, наагул усюды, з выняткам у сялянскім жыцьцю, дый сяляне — ён спадзяецца — навучацца з часам парасійску і забудуцца сваю мову (130). Як і расійская адміністрацыя ў Беларусі, «Вестник» даводзіў, што «Народныя школы ёсьць у Заходнім краю наймагутнейшым і найсьпяшнейшым (найудачнейшым) сяродкам да яго абрусеньня». «Можна й павінна прызнаць, што цесны зьвязак і грунтоўнае зьліцьцё туташняга народу з народам вялікарускім гатуецца ў нас тут галоўна цераз сыстэму народнае асьветы», пісаў «Вестник» (133). Побач із гэтым на бачынах «Вестника» йшла прапаганда, што асьвета шкодная «низшим сословиям» (№ 2, 155).

Калі ў расійскага ўраду зьявіўся праект адчыніць у Вільні расійскую праваслаўную духоўную акадэмію, то Гаворскі выступіў супраць гэтага. Ён пісаў: «згрупаваньне ў гэтай акадэміі студэнтаў із заходня-рускіх губэрняў, у тым ліку былых вуніяцкіх сэмінараў, шкодна адбіласяб на іх узгадаваньню ў сэнсе сучаснага ачышчэньня расійскае мовы ад мясцовых правінцыялізмаў і беларускага акцэнту, ад чаго яны, будучы туташнімі ўрадзімцамі, ня могуць пазбавіцца ў мясцовых сэмінарах. Калі пазбавіць іх сувязі із студэнтамі — урадзімцамі вялікарускіх губэрняў, яны ня здолеюць працяцца «истинно-русским духом», расійскім праваслаўем і расійскімі звычаямі» (136). І Гаворскі перамог: акадэмія ня была адчынена.

«Вестник Западной России» «сьведама блытаў рэлігію з нацыянальнасьцю, наўмысьля ставіў знак роўнасьці паміж праваслаўем і «русской народностью». Як ня было яму вонках праваслаўя Расіі, так ня было яму Беларуса-каталіка» (134).

Загады а мерапрыемствы Мураўёва аб прызначэньню да Беларусі, пасьля паўстаньня, расійскіх ураднікаў таксама сустрэлі з боку «Вестника Западной России» поўнае падзьдзяржаньне. «Трэба зазначыць, кажа аўтар, што заклікі, каторыя пісаў Мураўёў а Карнілаў (куратар Віленскае школьнае акру-

гі) да расійскага грамадзтва «прысыці з памогаю Заходня-рускаму краю» — сустракаліся гэтым грамадзтвам вельмі сьцюдзена. «Дарма што былі пазваньні й выклікі куратарамі і цераз газэты, даўгі час не зьяўляліся ахвотнікі займаць месцы ў Заходнім краю», наракае Карнілаў.

Прычыны гэтае зьявы зьясьняюцца вельмі проста: служба ў Заходнім краю вымагае ад Расійца большае працы, энэргіі й такту, чымся ў цэнтральных губэрнях. Самае жыцьцё ў паветавым месьце або ў бедным мястэчку, воддаль ад усяго роднага, сярод людзёў, чужых вераю й перакананьнямі, а вельмі часта проста варожых ёсьць мала пацяшаючым. Вонках службы жыцьцё расійскага ўрадніка («чиновника»), поўнае трывогі й няпрыемнасьцяў, абмежуецца вельмі вузкімі рамкамі радзімнага або таварыскага грудка» (137).

Адзіная магчымасьць прынадзіць да Беларусі на службу Расійца — было даць яму як мага большую пэнсію. «Грошы, — вось чым замест ранейшай ідэйнасьці і патрыятычнага служэньня інтарэсам імпэрыі — пачаў заахвочаваць Мураўёў а Карнілаў расійскае вучыцельства а ўрадніцтва. «Вестник Западной России» із захапленьнем падхапіў гэтае мерапрыемства... Праграма «обрусения Белоруссии» з гэтага мамэнту ясна вызначалася не як культурнае або нацыянальнае заданьне, а як вузка аканамічны, проста сказаць скурны інтарэс тых «дзеячоў», што пачалі з 1864 г. ехаць да Беларусі на цёплыя месцы, на падвойныя пэнсіі, надгароды, ордэны і г. д.» (137).

Прыносілі яны із сабою дэмаралізацыю. «Наплыўшы з глыбіні Расіі адно каб напхаць сабе кішаню і ня маючы абсалютна нічога зьдзержуючага, уся гэтая лотва («арава») ўраднікаў, палічнікаў, пасярэднікаў, вучыцялеў, а то й проста ахвіцэраў тых няшчысьлёных жандарскіх а казацкіх пастояў, што хмарай пакрывалі пасьля паўстаньня «заміраную» Беларусь, — унесла ў край надзвычайны маральны распад, збэсьціла а спростытуявала грамадзкае жыцьцё ў самых асновах. «Адзінае шчасьце краю», піша аб гэтых часох адзін із сучасьнікаў, была надзвычайная прагавітасьць гэтых псэўда-патрыётаў на грошы. Толькі ў хабару можна было знайсьці сабе ў тым часе паратунак ад гэтае ўлады; трэба было адкупляцца на ўсе бакі, каб спабыцца трасеньняў, скандалаў, што пакідалі просьле сябе сьляды поўнага зьнішчэньня» (138).

«Заліты крывёй кагадзе задушанага паўстаньня, разбураны з боку гаспадарскага, змучаны й зьбіты з нармальнага жыцьця, край запраўды стагнаў ад гэтае процьмы кар'еры стых а прайдзісьветаў» (138).



Гэтых, адылі, прайдзісьветаў бараніў Гаворскі. Дзеля таго ў канцы нат ягоныя прыяцелі і найзаўзятшыя прыхільнікі абрусеньня Беларусі пачалі выступаць супроці яго. Гэтак М. дэ-Пуле, рэдактар «Виленскага Вестника», просьле А. Кіркора, пісаў, што ў Вільні «зьявілася партыя канцавых русыфікатараў... Гэтая партыя дамагалася заўсёды жорсткіх мераў і ўпікала ў слабасьці й патураньню гэткіх асобаў, як сам М. Мураўёў. З боку гэтых русыфікатараў найбольш даставалася мясцовым рускім людзём... Ад іх, ад мясцовых людзёў, замест спакою а міру, вымагалі варожасьці а злосьці, — і калі не знаходзілі ні таго, ні другога, дык абзывалі іх мянушкамі палякуючых і апалячаных» (№ 2, б. 135).

Таксама Яз. Сямашка жаліўся ў лістох сваіх да сыноду, што некаторыя з прыбылых да «Заходняга Краю» ўраднікаў із трэбаваньнем ставяцца да мясцовага праваслаўнага духавенства, упікаюць яму няведаньне праваслаўных статутаў і нат мяшаюцца ў царкоўныя справы. Ён піша, што «нейкі гвардыі паручнік Шчэрбаў зачыняў самадумам безь зьясьненьня прыходы і хадзіў па аўтару ў кажуху з палкаю; штабс-капітан Крамераў і лейб-маёр Савіцкі самі служылі службу Божую, адзеўшыся ў рызы і носячы аўтарнае судзьдзё... Ведама, — піша Сямашка, — трэба зьмяніць шмат чаго ў тутэшнім краю, каб зрабіць яго аднолькавым із астачаю гаспадарства. Але трэба памятаць, што прызвычкі а звычаі, якія ўкараніліся ў масе народнай за вякі, патрабуюць гэтак сама стагодняга разумнага дзеяньня. Прымеж таго гэтыя рознасьці, дзякуючы надоечы прыбылым сюды расійскім дзеячом, былі апошнім часам прычынай смутных зьяваў у нашым краю, што сталіся галоснымі і зрабілі шмат на каго вельмі нявыгоднае даймо» (б. 135—36, № 2).

Гаворскі першы падняў пытаньне праз стварэньне расійскай земляной собскасьці ў Беларусі (137). «Вестник Западной России» пісаў: «Дзеля таго што ў вапошніх часох зьявіліся ў нашай прэсе чуткі, быццам сума штагодніх памогаў, пэнсіяў на старасьць, каторыя адзержуюць адстаўныя ўраднікі («чиновники») ўсіх службаў, зрабілася занадта цяжкой для гаспадарствавых фінансаў, дык напэўна знайшлося-б шмат такіх Расійцаў, што замест пэнсіі ахвотна замацавалі-б за сабой на вечнасьць канфіскаваныя або сэквэстраваныя двары ў Заходнім Краю. Прадставім сабе, — лятуціць «Вестник», — што ўсе пераказы пераможаныя — і вось з усіх канцоў Расіі едуць да Заходняга Краю ўраднікі-пэнсіянеры із сваймі сем'ямі, уладжуюцца тут на жыцьцё на вызначаных ім дзялянках, заводзяць гаспадарку і памалу ствараюць сваю собскую расійскую інтэлігенцыю... Гэткім парадкам расійская зямляная соб-

скасьць у гэтым краю замацавалася-б ня толькі de scripto, але й de facto і край нажыў-бы рускую фізыяномію... Цяпер шмат якія Расійцы ня хочуць заставацца на сталае жыцьцё ў Заходнім Краю, між іншага, таму, што няма тут расійскага грамадзтва, няма дзе супачыць душою. Гэтая няпрыемнасьць сама сабой зьнікла-б, калі-б край засяліўся расійскімі собсьнікамі зямлі, і, як бы на знак чароўнае рукі, борзда адбылося-б жаданае абрусеньне»... Зусім інакш адчуваў-бы ён (ураднік-Расіец), калі-б у яго быў невялічкі, гэтак прыблізна дзесяцінаў у 500, дварочак» (150).

Аўтар пытаецца, які клясавы інтарэс быў «западно-русской» школы, «хто у тых часох у складзе «западно-русской» школы»? І тут-жа адказуе: «яе складалі драбныя ўраднікі, вучыцелі селавых а месцкіх школаў ды гімназіяў, дробная мясцовая адміністрацыя, пачынаючы ад валаснога пісара і канчаючы пасярэднікам а спраўнікам, праваслаўнае духавенства, прымесцкія мяшчане, наагул тая сярэдняя краёвая праваслаўная беларуская інтэлігенцыя, якая лікам была вельмі невялічкая... Да яе, ведама, належыла й вялікаруская «інтэлігенцыя», каторая наплыла з цэнтральных губэрняў і каторая верхаводзіла справай русыфікацыі, але каторая ідэялягічнага афармленьня для «западно-русской» школы не давала і даць не магла. Эканамічна ўся гэта мяшчанска-буржуазная кляса была з рэдкімі выняткамі незаможная; ладнае земляное собскасьці і капіталаў, што гулялі-б якую-небудзь ролю ў гаспадарскім жыцьцю краю, яна ня мела. Яшчэ й да паўстаньня... гэтая дробна-буржуазная кляса расійскай культуры цягнула за Расію»... (147).

«Паўстаньне і пачаты пасьля яго разгром польскае (болей спалячоў — Я. С.) аканамічнае сілы ў краю раскрылі перад гэтай клясай найспакусьнейшыя пэрспэктывы. Высокія пэнсіі, надгароды, ордэны, магчымасьць лёгка зарабіць і выбіцца на службе, рэквізыцыі па польскіх дварох і па местах, бескантрольны разгул усямоцнай адміністрацыі... цёплыя месцы адміністратараў, судзьдзяў, пасярэднікаў, палічнікаў, вучыцялеў, наапошку вакханалія, якая пачалася ў краю з прымусовай ліквідацыяй польскіх двароў, што прадаваліся з малатка па казённай ацэнцы і якія можна было нажыць пры казённых пазыках за чужыя грошы і без усялякіх падаткаў, — усё гэта разам узятае не магло не захапіць урадніцкай і папоўскай праваслаўнай інтэлігенцыі і не аформіць яе палітычнага сьветапагляду. Мураўёў ведаў, што рабіў, калі дыкжэ на груньце эканамічнай зацікаўленасьці наважыў стварыць у краю сваю адумысловую партыю. У гэтым сэньсе ён апіраўся ня гэтулькі на сялянства, як клясавую сілу, а дыкжэ на гэтую дробна-буржуазную армію ўраднікаў і валасных пісароў, якую ён надзіў аднолькава і ідэяй расійскай народнасьці і расійскім рублём.

«Усе ласкі, усе грашовыя й службовыя выгоды йшлі ім ад тае ўлады, каторая рэпрэзэнтавала Маскву, ішлі ад «великой матушки России» зь яе неабмежанымі матар'яльнымі магчымасьцямі, ішлі ад Пецярбургу, ад дэпартамэнтаў, міністэрстваў, прыдворных сфэраў аж да самага «обожаемого монарха». Ішлі яны наапошку, ад праваслаўнага сьвяцейшага сыноду, ад маскоўскага мітрапаліта Філарэта, які ня толькі із сваіх канфэсыянальных, але й агульна-палітычных мэтаў падзьдзержаваў сыстэму Мураўёва.

«Усе паказаныя ласкі маглі быць нажыты пры адной умове — пры служэньню расійскай уладзе... Вось гэтыя эканамічныя й матар'яльныя выгоды дыкжэ й ляжалі ў васнове «западно-русской» школы...

«Селавы сьвятар і месцкі вучыцель, палацкі архівар і супрацавень губэрскіх ведамасьцяў — усе гэтыя служылыя людзі кіраваліся загадам губарнатарскай і архірэйскай улады і найперш высоўваліся гэтай уладай на вышшыя ступені сацыяльнай драбіны... На гэтым груньце і стварылася ў Вільні і наагул у ўсёй Беларусі 60-х і 70-х год тая атрутная, агідная атмасфэра, у якой пышнай кветкай закрасаваў палітычны «западно-руссизм» тыпу Гаворскага...

«Ступеняй сваёй эканамічнай зацікаўленасьці ў русыфікацыі Беларусі, скурніцтвам, прадажнасьцяй, бяспрынцыповасьцяй, «западно-руссы» Гаворскага мала чым розьніліся ад вялікарускіх калянізатараў, якім нічога, апрача голага інтарэсу, ня існавала. Пастаўленая на грунт фаврытызму, расійская культурная земляная собскасьць у «северо-западном» краю зусім лёгічна разьвівалася ў вафэру, спэкуляцыю, кулацтва. Аб гаспадарствавых і нацыянальных інтарэсах ня было і ўспаміну. Кажны з прыблудаў жадаў толькі што-небудзь зарваць у краю і барджджэй пакінуць яго» (148—149, № 2).

Дзеля менаванага няма дзіва, калі А. Пыпін пісаў, што «ён (Гаворскі) абярнуўся тут у такога абаронца расійскае ідэі і расійскае ўлады, які горшы за найгоршага ворага» (№ 1, 1928 г., б. 126). Няма таксама дзіва, што, наапошку, выступілі супроці Гаворскага нат шчырыя, але разумнейшыя памачнікі Мураўёвы. Гэтак, прыкл., П. Бяссонаў «адзін із тых, каго Карнілаў выклікаў з Масквы дзеля «обрусения» Беларусі, каму была паручана мураўёўская «рэформа» Віленскага музэю і кіраваньне работай Віленскай археаграфічнай камісіі», пісаў: «Западно-русских» людзёў не жадалі мы вітаць у гэткім мундзіру і з форменнымі гузікамі. Не карэспандавалі ім у Пецяр-

бург . . . Палітычнае, па нашаму, было ня тое самае, што палічнае («полицейское»), а гаспадарстваве — ня тое самае, што ўрадніцкае. Арэндаў (ордэнаў? — Я. С.), знакоў удзячнасьці, выгодных командыровак і ўвагі ўлады — мы не дамагаліся . . . Займаючыся гісторыяй краю, мы не ўглядалі яе ў вапісаньнях патрыятычных сьвяткаваньняў; у рупнасьці аб асьвеце, мы ўважалі, што гэта не адно й тое, што рэгулярна адседжаваць «пэдагагічныя вечары». Дасьлядуючы на месцу беларускую песьню, мы не дабачылі перамогі расійскае народнасьці, калі хто-небудзь у вап'яненьню садзіўся на берагох Вяльлі ў шырокі круг і пачынаў пяяць «Вниз по матушке по Волге» (б. 156, № 2).

Дзеля гэтага «з пачаткам 1868 г., зн. з прыездам да Вільні чацьвертага з парадку начальніка краю, ген. Патапава, «Вестник» пачынае ўсё больш траціць ранейшы пэўны тон, і на ягоных бачынах усё часьцей пачынаюць гучэць ноткі расчараваньня й пэсымізму. Пад уплывам гэтага настрою Гаворскі пачынае з большай уважлівасьцю ставіцца да «туташняга» народу, нездаволены дачыненьнямі цэнтральнай улады да мясцовага духавенства, наапошку, важыцца заявіць, што паміжураднікамі, што наплылі з Расіі, і «туташнімі рускімі» ня ўсё добра» (б. 152, № 2).

«Зазначае Гаворскі, што расійскія ўраднікі ня гэтулькі служаць Расіі, як сабе, што яны «асабліва любяць прыбытковыя месцы», і выказуе пажаданьне, каб сярод іх ня было нязручнасьцяў, інтрыгі, завіднасьці і **«каб рускія ў краю госьці мелі больш пашаны да русскіх гаспадароў краю» (153).** Тады-ж Гаворскі пісаў: «Пры адносна слабым колькасным элемэнце расійскай інтэлігенцыі ў Заходняй Расіі, галоўную ў ёй сілу складае просты народ. На гэтую сілу варта зьвярнуць увагу з боку маральнага, аканамічнага й палітычнага. Маральны бок заходня-рускага простага люду, раўнуючы да іншых, ня можа на радаваць назіральніка. Бальшыня пашыраных у іншых народаў учынкаў — у заходня-русаў разьвіты слаба; гэты народ блізу не знаёмы з раскошай, гвалтам, разгулам. Сямейныя дачыненьні туташняга простага народу не такія дзікія й свавольныя . . . Зладзействы, разбоі а падпалы тут ладне бываюць радзей чымся ў іншых мясцох. Навет п'янства ня так агідна і ня так шырака разьвіта, як у бальшыні вялікарускіх губэрняў» (152, № 2).

У 1870 г. Гаворскі адышоў ад розуму і ў 1871 г. памёр у вар'яцкім доме. «Виленский Вестник» прысьвяціў Гаворскаму 10 радкоў хронікі, а «Литовские Ведомости» — тры радкі. «Вось надгарода трывалкому ходаньніку за праваслаўе і рускую народнасьць у Заходнім краю»! — горка зазначае з гэтае прычыны А. Сапуноў» (154).



Чацьверты разьдзел працы аўтаравае мае назоў **«Характарыстыка эпохі 70-х і пачатку 80-х год»** (надрукаваны ў № 3-ім «Полымя' 1928 г. б. 120—141).

Перад паўстаньнем 1863 г., у Беларусі быў вялікі культурны ўздым. Аўтар гэтак яго добра малюе: «Канец 50-х і пачатак 60-х год былі пэрыядам усебаковага ўзросту культуры краю, праўда, культуры польскае, але слаўнай і адбіваючай касу свайго роскквіту далёка на ўсход і на захад. Побач із разьвіцьцём польскай культуры, у Вільні памалу вырастала й беларуская ідэя, пакуль што ў так званым «літоўскім», або «крывіцкім» абліччу (трэ былоб сказаць: пад «літоўскім» або «крывіцкім» назовам — Я. С.), але бязумоўна ў мясцовым, этнаграфічна-беларускім. І няма ведама, хто яшчэ ўзяў-бы гару ў дальшым развою краю, — плынь на Польшчу, на Варшаву, ці літоўска-беларускі этнаграфізм. Калі прыглядзіцца да тае «літоўскае» партыі, якая групавалася каля Нарбута, калі дазнаць глыбіню працы і захопленасьць ёю, чым адзначалася гэтая партыя ў васобах Адама Кіркора, Сыракомлі, Адынца і іншых, — дык прыдзецца згадзіцца, што яна ткі брала гару над чыстай польскасьцю, і раней ці пазьней, але запанавала б у Вільні» (120).

Адлі аўтар кажа, што з гэтай групаю былі зьвязаныя беларускія паэты. Аўтар прыводзе довады, што паміж беларускай нацыянальнай групаю і беларускай інтэлігенцыяй польскага кірунку вялося ідэялягічнае ходаньне (там-жа). Перамога беларускага нацыянальнага кірунку забесьпячалася яшчэ вывальненьнем сялян ад прыгону, зн. элемэнту ані не спалячанага.

«Разгром Мураўёва і той рэжым гвалту а тэрору, якім ён нішчыў «польшчыну» ў Беларусі, зьнішчыў і пачаткі беларускага культурнага руху. У Вільні, як і ў усім краю, запанавала афіцыйная казённая «русская народность», расійскае войска, паліцыя, жандармэрыя, расійскі ўраднік і ягоная мова. Пачалося змаганьне за «душу» беларускага насельніцтва, за ягоную веру й будучыню, змаганьне шляхам штучнага насыланьня «истинно-русского» вучыцельства, расійскае кнігі, адчыненьня расійскіх кнігарняў, школаў і бібліятэкаў. «Усе гэтыя ўрадовыя «меры к восстановлению русской народности» ў Беларусі, што пачаліся за Мураўёва і цягнуліся пры бліжшых ягоных памачнікох, агульна вядомы . . . усё жывое, усё зьвязанае з краем, зь ягонымі думкамі й настроямі, усё, што працавала над ягонай мінуласьцяй і аддавала сілы сучаснасьці» —

усё гэта шчэзла. «У часе апошняга пагрому, яны быццам былі змыты з аблічча зямлі, іх як-бы зьмяла нейкая нявідная рука . . .», пісаў адзін староньні сьветка просьле паўстанскіх падзеяў, якому давялося быць у тыя часы ў Вільні» (122).

Лік расійскага войска ў Беларусі павялічыўся просьле паўстаньня да надзвычайных памераў. Войска мела русыфікацыйны ўплыў на жыхарства (128).

Аўтар апісуе поўны ўпадак гаспадарскі (б. 134—138) й культурны краю (139—141). «Гэткай была Беларусь просьле паўстаньня ў 70-х і пачатку 80-х год», калі ў ёй пачало абуджацца сьведам'е свае нацыянальна-культурнае апрычонасьці і калі паралельна гэтаму разьвівалася дзейнасьць ідэялёга «западноруссизма» — М. Каяловіча» (141).

У разьдзеле V свае працы, надрукаваным у № 4 «Полымя» з 1928 г. (б. 113—145), аўтар разглядае **«Пагляды й дзейнасьць М. Каяловіча».**

Каяловіч займае цэнтральнае месца ў «западно-русской» школе. «Толькі дзякуючы Каяловічу школа «западно-руссов» адзержыла сваё канчальнае ідэялягічнае афармленьне» (113). Аўтар падаець жыцьцяпіс Каяловіча, разглядае ягоную ідэялёгію а дзеяльнасьць і зьясьняе прычыны, чаму гэты чалавек, непадобны да моральна нізкога Гаворскага, мог стацца рэнэгатам і зраднікам свайго народу на карысьць Масквы. Прычынаў было колькі, павязаных між сабою. Першай прычынаю было незнацьцё некатарымі Беларусамі Расійцаў, як народу, і няведаньне гістарычных дачыненьняў Масквы да Беларусі. Пры быцьцю гэтае акалічнасьці ды аднача́сна пры ненавісьці да Польшчы і баязьні яе, даная Расіяй дзеля сваіх эгаістычных мэтаў некатарая помач праваслаўю ў Беларусі, яшчэ за беларуска-польскай Рэчыпаспалітай у XVIII стг., кідала некатарых незаднаважаных людзёў у вабыймы расійскія. У такой радзіме (сям'і) вырас Каяловіч (115, 116). Ягонаму зрадніцтву прыяла яшчэ тое, што ён утажсамляў рэлігію з нацыянальнасьцяй (138). «Адзіная вера — магла пакрываць рознасьць нацыянальнасьці», кажа ягоны біяграф І. Філевіч (119). Ягоныя навуковыя працы таксама мелі аднабокі характар — ён працаваў над гісторыяй рэлігійнае вуніі ў Беларусі, што адказавала ягонай навуковай прыгатове, як гадунца праваслаўнай духоўнай акадэміі. Але і ў сваім дасьледаваньню гісторыі вуніі ён ня даў «зьясьненьня агульна-гісторычных а сацыяльных умоваў зьяўленьня вуніі, якія былі праведзеныя ў пазьнейшых больш бестароньніх працах» (120).

Дарма, што Каяловіч быў адданы расійскай справе, ён нат на сабе дазнаў дачыненьне Расійцаў да Беларусаў. «З глядзішча Мураўёва — сьцьвярджае аўтар — усе мясцовыя людзі былі падазроныя за паланізм, незалежна ад таго, ці былі яны каталікамі, ці праваслаўнымі; розьніца паміж Палякамі і «западноруссамі», а тым больш Беларусамі, — была, подле пераканацьня Мураўёва, зусім невялічкая. Ягоным даверам карысталіся толькі карэнныя Вялікаросы, толькі «истинно-русские люди». Усё, што ня было «истинно-русским», з цэнтральных вялікарускіх губэрняў, усё, на чым ляжала пячатка тутэшнясьці, мясцовай гісторыі а культуры, — усё гэта выглядала ў ваччу Мураўёва «палякуючым» а «лацінствуючым» (133).

З глядзішча нацыянальнага аўтар даець гэткую канчальную характарыстыку Каяловіча: «Каяловіч змагаўся проці фэдэрацыйнага прынцыпу, але разам із тым вызнаваў яго рацыю; змагаўся за адзінства Расіі із «Западной Русью», але разам із тым высака цаніў гістарычную апрычонасьць Беларусі. Іншымі словамі ён стаяў у сваіх канчальных разважаньнях на ўзьмежку таго, што мы завем этнаграфізмам і нацыяналізмам. Ён рупна адхрышчаваўся ад небясьпечнасьці пераходу першае стадыі ўсьведамленьня ў другую, — баяўся, галоўнае, каб гэты пераход ня быў скарыстаны Польшчай» (114). Выглядае, што Цьвікевіч не цацкаецца з Каяловічам, хочучы знайсьці ў ім штось пазытыўнае, прымеж таго гэта тыповы здольны янычар.

**«Западно-руссизм' у ідэялягічным афармленьню»** ёсьць назоў VI разьдзелу працы аўтаравае, надрукаванага ў № 7 «Полымя» 1928 г. (б. 131—143). У гэтай часьці свае працы аўтар разглядае беларускі адраджэнскі рух 70-х а 80-х год XIX стг. і працілежную яму русыфікацыйную дзейнасьць «западноруссов» на чале з Каяловічам.

У 70-х гадох пачалася літаратурная дзеяльнасьць Пранціша Багушэвіча, бацькі беларускага нацыянальнага адраджэньня. У гэтым-жа часе зьяўляюцца такія беларускія навуковыя дзеячы-патрыёты, як Іван Насовіч, аўтар вялікага слоўніка Беларускае мовы. «80-ыя гады адзначаюцца шпаркім развоям беларускае этнаграфіі і павялічанай зацікаўленасьцю да беларускае народнасьці, як аб'екту навуковага вывучэньня» (136). У Менску з 1887 г. дзее грудок інтэлігентаў адданых беларускай справе (паэта Іван Няслухоўскі, Ал. Слупскі, будучы гісторык М. Даўнар-Запольскі). Група студэнтаў выдаець часапіс «Гоман» з дамаганьнем аўтаноміі Беларусі (137).

Ня толькі ў закліках беларускіх фэдэралістых веяла «духам сэпаратызму», але адусюль. «Дух сэпаратызму» дзьмуў нават із салідных навуковых выданьняў, больш таго — аб ім разважалі ў беларускіх царкоўных брацтвах. Тое, аб чым так рупіўся Каяловіч перад паўстаньнем і падчас яго, «каб мясцовая партыя», альбо «партыя лепшых польскіх людзёў» у Бела-

русі адмовілася ад ідэялаў вялікае Польшчы, адхінулася ад тварэньня польскае культуры на беларускіх землях і прыняла «новую праграму» — сталася, але сталася зусім не ў такім выглядзе, аб якім лятуцеў «западно-руссизм»: адмовіўшыся ад служэньня польскасьці, «мясцовыя людзі» польскай культуры не пачалі служыць расійскасьці, але пачалі аддаваць свае сілы мясцовай-жа ідэі — беларускай (138).

Каб магчы ходацца з гэтым рухам, трэба было ідэялягічна аформіць «западно-руссизм». За гэта і ўзяўся Каяловіч. У сваіх чысьленых агітацыйна-арганізацыйных падарожжах па Беларусі ён сустракаўся з рознымі смутнымі зьявамі — зь бязьдзейнасьцю «русских людей», зь няўмелым спосабам абрусеньня і інш., але найбольш яго даняла новая зьява — беларускі сэпаратызм.

«На ўсёй прасторы Заходняй Расіі — пісаў Каяловіч — цяпер разгартаецца падвойны сэпаратызм — заходня-рускі й вялікарускі ... «Русские люди» ў Заходняй Расіі цяпер займаюцца геаграфіяй, генэалёгіяй і на'т фізыялёгіяй, але з такога боку, які ня мае ніякіх адносін да навукі. Яны разьбіраюцца, што адкуль паходзіць і на што канчаецца ягонае прозьвішча,— на — «ов» ці на «іч». Адныя кажуць: хто з усходу Расіі, той нашэньнік поўных расійскіх асноваў жыцьця, хто із захаду, — той на поўрускі, палякуючы або уніяцтвуючы. Другі бок плаціць аднаважнай манэтаю: хто із захаду, той сумленны, прыстойны чалавек, а хто з усходу, той гультай. Пад гэтымі дробнымі лаянкамі заховуецца вельмі спаважнае разадзіночаньне» — прызнаецца Каяловіч (142).

Каяловіч ня супроці таго, каб «просты народ беларускі й маларускі» гукаў пасвойму, але інтэлігенцыя «усіх трох рускіх плямёнаў» павінна гукаць толькі парасійску. «Цяжка зьверыць зло — кажа ён — якое выходзіць на'т ужо цяпер ад нашага інтэлігенцкага сэпаратызму. Ім ужо займаюцца добрыя людзі, і вынікі гэткага падзелу вельмі часта балюча адбіваюцца на тамашнім жыцьцю. Але яшчэ важнейшыя будуць вынікі, калі гэты сэпаратызм пачне разьвівацца лягічна і ськіруецца ў Беларусі ў гушчу простага народу.

«Шмат хто із заходня-рускіх людзёў ... вельмі затрывожаны развоем сярод іх гэтага западно-рускага сэпаратызму і імкнуцца паказаваць усім, што яны стаяць вышэй за яго ... з радасьцю я сустракаў грудкі, дзе навет не падыймаюць мовы, хто з усходу, а хто з захаду, але ўсе складаюць адно. Гэта тыя грудкі, у каторых заховуецца дарагое імя І. Аксакава, дзе заховуецца славянафільства — лепшы расійскі сьветапагляд ... І я скрозь прыходзіў там да думкі, што калі-б я ніколі ня быў славянафілам, дык стаўся-б ім па гэтым падарожжы па Заходняй Расіі» (142—143).



Гэтак прайшоў Каяловіч да «найгалаўнейшае ідэі «западно-руссизма» — да ўсемагутнае ідэі славянафільства (143).

Засталыя ідэялягічныя рысы «западно-руссизму» аўтар зьясьняе ў наступным VII разьдзеле свае працы, надрукаваным у кн. II «Полымя» 1929 г. («Спробы ідэялягічнага афармленьня «западно-руссизма»).

Славянафілы, у тым ліку іхныя «западно-русские» сяброве, прынамся часьць іх, не працівіліся дасьледаваньню й на'т прызнаваньню гістарычнай апрычонасьці Беларусі, але з тым, што цяперака ўсё культурнае жыцьцё Беларусаў павінна быць вялікарускае (148). «Палеміка Каяловіча з фэдэралістычнай тэорыяй ясна паказала, якую цану мелі ўсе славянафільскія галашэньні «западно-руссов» і абяцаньні агульна-славянскага адзіноства незалежна ад вялікарускага верхаводзтва. Яна паказала разам із тым, чаго была варта пашана «западно-руссов» да мясцовых асаблівасьцяў і куды вяла казань іх аб «прытульным месцу» Беларусі ў Расійскай імпэрыі. Калі пытаньне аб праве асобных плямёнаў, — у даным прыпадку ўкраінскага й беларускага, — пачало ставіцца ня ў тэорыі, а на практыцы, калі справа даткнулася навет ня права на палітычную самастойнасьць, а на сваю собскую школу ды кнігу, — зн. на элемэнты самастойнасьці культурнай, — «супольнасьць у славянсьцьве» адразу зьмянілася на «зьліцьцё ў вялікарускасьці» (149).

Дзеля таго й пагатове супроцістаўіцца Каяловіч да спробы беларускага грудка ў Віленскім унівэрсытэце — Даніловіча, Ярашэвіча ды інш., «якія прыходзілі да сьведам'я, што й самі яны не Палякі, а тым больш ня польскі народ іхняга краю» ... «надумаліся аднавіць самастойнасьць заходняй Расіі на аснове старой ідэі палітычнае незалежнасьці Літвы» (135). «Западно-руссизм» адзначыўся безаглядным ганьбеньнем усяго польскага і «бязьмернай хвальбой Расіі, як ідэялу, у якім тоіцца ўвесь сэнс, уся сутнасьць быцьця Беларусі» (133). Разам із тым «быў у пяршыню сфармуляваны «западно-русский» аргумэнт аб «вялікай магутнай Расіі», — аргумэнт, які пры дальшым развою беларускага вызвольнага руху стаўся нам такім знаёмым» (137).

Аўтар зьясьняе ідэялёгію «западно-руссов» і адначасна паказуе, што яна была абаперта на хвальшывых допушчэньнях, бо, «змагаючыся з Польшчай, «западно-руссизм» усе свае надзеі пакладаў на ўсход. Беларусь подле пераканаьня «западно-руссов», спрадвеку цягнула на ўсход, мела з усходняй Расіяй адзіны нацыянальны карэнь, адну ўсходня-славянскую глебу ... той самы гістарычны спадак ...» (140).

Каяловіч даводзіў, што «Толькі ў вадзіносьцьве з Усходняй

Расіяй любоў да Беларусі можа мець законнае а плоднае выяўленьне. «На ўсход Беларусь цягне народнае адзінства крыві, — паўтарае Каяловіч свой звычайны аргумэнт, — і вораг народу той, хто будзе паўставаць супраць гэтага адзінства. З усходу прынесены Беларусі гэткія дабрыні, як падзелы Польшчы і вызваленьне ад прыгону. А што прышло із захаду? Жыды, езуіты, вунія, гібель народнае інтэлігенцыі, сыстэма батрацтва, прыгоннае становішча ды інш.» (139).

Запраўны, ніякага адзінства крыві ані адзінага нацыянальнага караня ў Беларусаў із Расійцамі няма, бо Беларусы балцка-славянскага паходжаньня, а Расійцы — Фіны, адно із славянскім пакостам, мітам ёсьцека «усходня-славянская глеба», а гістарычны спадак у вабодвых народаў розны. З вынятткам адзінак у пасьлейшыя хваравітыя пэрыяды, Беларусь да Расіі ніколі не цягнула. А што да «дабрыняў», дык падзелы былі ня Польшчы, а беларуска-польскай Рэчыпаспалітай, скасаваньне прыгону ў Расіі сталася 70 год просьля таго, як у Беларусі было пастаноўлена звольніць сялян ад прыгону (у 1793 г. беларуская дэлегацыя на чале з Т. Касьцюшкам заявіла француcкаму рэволюцыйнаму ўраду праз пастанову ў Беларусі звольніць сялян ад прыгону). Што да Жыдоў а езуітаў, дык могуць яны адным падабацца, другім не, але былі яны ў усёй заходняй Эўропе, дык прыродна, што былі і ў Беларусі, каторая складае часьць Заходняе Эўропы. Беларускае народнае інтэлігенцыі найбольш зьнішчыла Расія, захапіўшы Беларусь. Сыстэма батрацтва была рэзультатам несправядлівай земляной рэформы, праведзенай Расіяй, пачынаючы з 1861 г. Прыгон дыкжэ найцяжшы быў у Расіі.

«Западно-руссам» «Галоўным хундамэнтам адзіноства Беларусі з Расіяй было праваслаўе... Вось чаму ўся гістарычная аргумэнтацыя Каяловічава перасыпана фактамі ды давёдкамі зь беларускае царкоўнае гісторыі». «Але й тут — добра кажа аўтар — «западно-руссизму» не пашанцавала, бо ў Беларусі, як ведама, апрача праваслаўя, здаўна было пашырана каталіцтва, ня кажучы ўжо аб вуніі, што існавала з канца XVI стг. да сярэдзіны XIX стг. і ў пэўным разуменьню была своеасаблівай «беларускай мужыцкай верай». Праўда «западно-руссизм» з надворнага боку лёгка разьвязаваў гэтую рэлігійную супярэчнасьць:... ён проста не ўважаў Беларусаў-каталікоў за запраўдных Беларусаў і аддаваў іх Польшчы. Але гэта была вялікая нацяжка, яна занадта біла ў вочы кажнаму неасьлепленаму праваслаўным патрыятызмам (запраўды-фанатызмам — Я. С.)» (144).

Чым далей, тым болей ягоны (Каяловічаў) «западно-руссизм» набіраўся — «истинно-руских» рысаў і станавіўся ў цэнтру агульна-расійскае рэакцыі. Як прафэсар Пецярбурскай Духоўнай Акадэміі, у «Словянском Обществе», у этнаграфічным аддзеле «Геаграфіческого Общества», у Камісіі арганізацыі народных школаў у Беларусі, — усюды ён «ратует за благо Западной России» — у справы яе «вбивает русский гвоздь». Гэтай-жа мэце ён служыць у супрацы із Саблерам, Пабеданосцавам, Карнілавам і Суворынам — тагачаснымі кіраўнікамі расійскае рэакцыі. Навокал яго ў гэтыя гады ствараецца цэлая група бліжшых прыхільнікаў, ягоных собскіх гадунцоў, — прафэсароў Скаблановіча, Завітневіча, Філевіча, Цьвятаева ды іншых прадстаўнікоў «западно-росской» школы» (150).



### Характарыстыка становішча Беларусі ў 80—90 гг. (Полымя 1929 г. май, б. 115—138).

Тут аўтар галоўна разглядае, чаму й як Беларусь у 80-х гадох дзевятнаццатага стагодзьдзя сталася гаспадарскай калёніяй Расіі: «...расійскія калянізацыйныя імкненьні ў кірунку Беларусі — кажа аўтар — ясна вызначаліся ня толькі ў практычным жыцьцю, ня толькі ў факце штодзеннага захапленьня расійскім капіталам беларускага эканамічнага жыцьця, але і ў літаратуры. Гэтак, прыкладам, вядомы расійскі соцыялёг С. Южакоў у 1886 г. выразьліва прапагандаваў калянізацыйны паход на Беларусь, зьясьняючы яго патрэбу інтарэсамі гаспадаркі расійскага гаспадарства. (Калянізацыя Палесься, — кажа ён, — разумеючы пад Палесьсем наагул усю беларускую этнаграфічную тэрыторыю, — належа да ліку найважнейшых заданьняў нашае нутраное эканамічнае палітыкі» (117).

«Калянізацыя Беларусі расійскім капіталам вызначалася пры канцу XIX стг. ў найразнастайнейшых формах: у форме гандлёвых адносінаў мясцовых фірмаў із Масквой, у форме адкрыцьця ў Беларусі адзьдзелаў маскоўскіх і пецярбурскіх банкаў і банкірскіх кантораў, у вялікім развою чыгунак, у вялікім гаспадарстваым будаўніцтве — ня толькі чыста эканамічным, але й стратэгічным, у ўсё большым напльіве на Беларусь расійскага войска й урадніцтва і, наапошку, у надзвычайна борздым росьце расійскае школы і асьветы наагул» (113).

Побач із расійскім капіталам, у 90-х гадох ідзець на Беларусь польскі прамыслова-ралейны капітал і паляпшае дворную гаспадарку апалячаных паноў (126 і наст.). Разам із польскім капіталам прыходзе польская палянізацыйная дзейнасьць (б. 131 і наст.).

Разам із гэтым «і ў (польскім) патрыятычна-сацыялістыч-

ным кірунку Беларусь рабілася аб'ектам агульна-польскай нацыяналістычнай экспансіі. Навачасная капіталістычная Польшча варочалася на Беларусь задзіночаным фронтам — ад магната да пэпэсоўца».

У разьдзеле 8-ым сваe кнігі аўтар разглядае «Западно-руссизм пры канцу XIX в.» «Барацьба за Беларусь — кажа аўтар — паміж расійскім капіталам і польскім панам, адноўленая па вялікім перапынку на пачатку асьмідзясятых год, павінна была раскрыць перад «западно-руссизмам» найражавейшыя пэрспэктывы... Радасны настрой падмацоваваўся цэлым сьцягам фактаў... быў закладзены «Крестьянский поземельный банк» (1882 г.), было прынята палажэньне пра сынадальна-царкоўна-прыходзкія школы (1884 г.)... у Вільні было адноўлена гэнэрал-губарнатарства, на чале з «вполне русским» ген. Троцкім; на гэнэрал-губарнатарскім пляцу ў тэйжа Вільні быў із вялікай урачыстасьцяй пастаўлены помнік Мураўёву, закладзены й «Мураўёўскі музэй» — «фабрыка отечественных патриотов», — як сказаў адзін із сучасьнікаў, і г. д... На Беларусі, здавалася, варочаўся знаёмы мураўёўскі рэжым, усюды узноў «пайшла мода на Мураёва» (167—68).

«Аднак надзеям западно-руссов» і на гэты раз ня суджана было спраўдзіцца» (168). Аўтар адлі ў цэлым разьдзеле разглядае прычыны гэтага.

Як «западно-руссы», так і расійская адміністрацыя ўважалі, што абрусіць Беларусь можна толькі прапусьціўшы новае пакаленьне цераз расійскія пачатныя школы, вучыцельскія сэмінары і вучыцельскія інстытуты (268). І праўда «маса, канчаючы стары вучыцельскі сэмінар, выходзіла адтуль патэнтаванымі русыфікатарамі»; але былі адзінкі сярод «народнае сялянскае інтэлігенцыі... якія па сэмінару ня чураліся «мужыцкіх» інтарэсаў. Сярод іх «знайшла сабе прыхільнікаў ідэя нацыянальна-культурнага й палітычнага адраджэньня Беларусі». Аўтар паказуе як гэта ставалася (269—274). Дзеля ілюстрацыі, як нацыянальна ўсьведамляліся гадунцы вучыцельскіх інстытутаў, ён прыводзе таксама цытаты з успамінаў Н. Бантыша «Старая Вильна» 1884—1906, што былі ў рукапісе ў рэдакцыі «Полымя». Бантыш, між іншага, пісаў: «У Віленскім інстытуце ўсе гадунцы ягоныя мелі магчымасьць карыстацца архівамі ў вялікай публічнай біблятэццы, а таксама ў музэю. Вучыцельскі пэрсанал інстытуту ўходзіў у «Комиссию по разбору древних актов». Гадунцы ягоныя таксама прымалі ўдзел у дасьледаваньню й аглядзе гістарычных дакумэнтаў. Такім парадкам, ім, Беларусам, зусім ясным рабілася законнае гістарычнае права Беларусі і на Смаленск, і на Вяліж, і на Невель, і на Сураж, і на Аўгустоў... Яны бачылі, што Пранціш



Скарына — першы друкар беларускі й славянскі... распачаў друкарскую справу ў Вільні й Полацку. Вось адкуль пайшоў культурны друк. І вось акт за актам, ліст за лістам слухачы інстытуту бачаць, што беларуская мова была абавязкавай у старым «літоўскім» гаспадарстве...» (272). Гэта была адна прычына неўжыцьцяўленьня спадзеваў «западно-руссов».

Другая прычына ляжала ў сфэры іхных дачыненьняў да Расіі. Як ні дзерліся «западно-руссы» із сваім расійскім шавінізмам, Расійцы іх ня прызнавалі за запраўдных Расійцаў і ім ня верылі. Расія патрабавала мноства ўраднікаў, і «западно-руссы» спадзяваліся, што яны пазаймаюць першыя месцы ў Беларусі, але з гэтым «Пецярбург не згаджаўся». «Як пры Мураўёву, так і цяпер, кіраўнікі расійскае палітыкі не маглі паручыць долю краю «западно-руссам», каторыя, хоць і былі шчырымі служкамі вялікагаспадарстваве расійскае нацыі, але самі... да гэтае нацыі не належалі. Пры новай «модзе на Мураўёва» стары пагляд на «западно-руссов» заставаўся ў гэтым сэньсе да сьмешнага аднолькавым. Як просьле паўстаньня, так і цяпер пад канец веку «западно-руссы» былі ў вачох Пецярбургу падазроным элемэнтам» (175).

Аўтар прыводзе праграму абрусеньня Беларусі, каторую ў 1887 г. ясна выказаў у «Новом времени» ідэялёг расійскіх русыфікатараў Б. Салаўёў. Я прывяду за аўтарам некаторыя месцы з гэнае праграмы. Салаўёў пісаў: «Ад аднаго павялічэньня праваслаўных цэркваў праваслаўе ня ўзмоцнілася, дзеля гэтага ня зроблена было нічога. Пачаць із таго, што праваслаўе ня можа праводзіцца ў жыцьцё сьвятарамі зь мясцовых урадзімцаў...

«Застаецца пагаварыць пра народныя школы. Школаў гэтых у заходніх губэрнях больш, чымся ў расійскіх. Апрача таго, ёсьць ладны лік вучыцельскіх сэмінароў. Здавалася-б дзеля гэтага, што школьная справа магла-б памагаць дасьпехам абрусеньня, але й тут мы далёкія ад пастаўленай мэты. Прыслухайцеся да мясцовай мовы, якой размаўляюць гадунцы мясцовых школаў і навет гімназіі, і вы будзеце зьдзіўлены асаблівасьцю націскаў — злучэньням словаў і тэрміналёгіі... І зразумела чаму. Як у народных школах, так і ў гімназіях вучыцялі й вучыцелькі — мясцовыя ўрадзімцы. Тут часта можна сустрэць ня толькі вучаньніка народнае школы, але й гімназіі, які піша «трапка», замест «тряпка» і г. д., не па апісцы або абмылцы, а таму, што так кажуць і пішуць усе туташнія. Скончыўшы народную школу, вучаньнікі, як і ўперад, завуць Тройцын дзень — зялёным сьвятам, Усьпеньне — Першай Прычыстай і да г. п...

